# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 28 (959) ГОД XIX БЕЛАСТОК 14 ЛІПЕНЯ 1974 г. ЦАНА 60 гр.

## Новыя вершы

*

Спілавалі дуб купчасты.
Зглухла пушча.
Вечарэе.
У паветры кружыць птаства —
Не прытулішся на дрэве.

Поўнач зябне.
Праз дрымоту
Быццам чую: птушкі недзе,
Як бяздомныя сіроты,
Нанач просяцца ў суседзяў...

**Генадзь Кляўко**



*Людзей на фэстыне было многа.*

## У чэрвеньскім сонцы

23 чэрвеня, вёска Сакі, што на Бельшчыне. Велізарны пляц. У сезоне тут скупляюць ад гаспадароў бульбу, прадаюць мінеральныя ўгнаенні.

Сёння пляц будзе служыць песні, танцам — тут адбываецца фэстын бельскага аддзела Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Пляц упрыгожаны сцяжкамі, транспарантамі ды каляровымі плакатамі, адлюстроўваючымі дасягненні нашай гаспадаркі і заданні, пастаўленыя VI з'ездам партыі.

Пляц запаўняецца людзьмі. Іх усё больш. Амаль усе прыйшлі з Сакоў, бачу пасынкаўцаў, хлопцаў з Зубава і Кожына, многа прыйшло з Катлоў. Вітаюцца па-сяброўску, па-святочнаму. Чакаюць адкрыцця фэстына. Усё тут новае, таксама як і мерапрыемства. У гэтых ваколіцах ніколі не было раней фэстынаў і іншых падобных мерапрыемстваў. Адсюль своеасаблівае зацікаўленне людзей і пэўная нервовасць арганізатараў.

І вось урачысты момант. Фэстын БГКТ пад лозунгам „З песняй насустрач 30-годдзю ПНР" адкрывае гаспадар, солтыс вёскі Сакі Аляксей Андрэюк. Яго голас усхваляваны, калі вітае гасцей: старшыню ГП БГКТ — Мікалая Самоціка, сакратара ПК ПАРП — Рамана Матосюка, старшынь павятовых праўленняў: БГКТ — Аляксея Карпюка і ЗСМВ — Юрыя Лявоцюка, начальніка гміны — Юрыя Каліну. І гэта нармальна, усё ж яго вёсцы выпаў гонар арганізавання фэстына, першага фэстына ў тым раёне. І калі гляджу на апрамененых сонцам тутэйшых жыхароў, чытаю ў іх вачах адказ свайму солтысу: не хвалюйся, мы не падвядзем.

З дакладам выступае старшыня бельскага аддзела таварыства, дырэктар ліцэя Аляксей Карпюк. Даклад паказвае ўдзел нашага насельніцтва ў засноўванні народнай улады, змаганне за яе ўмацаванне, дасягненні ва ўсіх галінах гаспадаркі і культуры. Асобнае месца займае раздзел, прысвечаны людзям, найбольш заслужаным БГКТ у павеце. Потым слова мае начальнік Бельскай гміны — Юры Каліна. Сваю прамову канцэнтруе вакол спраў гміны: яе дасягненняў, а асабліва заданняў, будучыні.

Пасля заканчэння афіцыяльнай часткі выступленні мастацкіх калектываў. Канцэрт распачынаюць бельскія „Васілёчкі", потым на сцэну выходзіць калектыў з Дубяжына і вакальны — з Тапчыкал. Пра іх галасы і мастацкасць мы пісалі не раз, дык распісвацца аб іх праграме не будзем. Адно скажам: хто бачыў усе гэтыя калектывы, той ведае: было тут весела.

На фэстын прыбылі пажарныя каманды з Кожына і Пасынак. Былі спаборніцтвы: якая каманда хутчэй прыступіць да гашэння пажару? Выйгралі пажарнікі з Пасынак, але трэба аддаць таксама гонар і кожынцам, якія ўвіхаліся вельмі спраўна, толькі, як на злосць, матор падкачаў.

У нашы фэстыны ўсё часцей уключаецца гандаль. У Саках быў пастаўлены кіёск „Руху" і два спажывецкія

Працяг на стар. 4



*Пажарная каманда з Кожына ў акцыі.*



Сустрэчы з землякамі

## ВОБРАЗ ФІЛОСАФА

Па адукацыі і прафесіі ён — **філосаф. У Вроцлаўскім універсітэце** чытае студэнтам лекцыі па марксісцкай філасофіі і сацыялогіі. З'яўляецца **намеснікам дырэктара** Інстытута філасофіі, сацыялогіі і логікі гэтага ж універсітэта.

Ведаючы ўсё гэта загадзя, спадзяваўся я сустрэць чалавека ў гадах, сівабародага, у акулярах, бо такі вобраз філосафа бытаваў у маім уяўленні.

У канцылярыю інстытута увайшоў яшчэ зусім малады, энергічны, шчуплы мужчына. Падміргнуў сакратаршы, акінуў мяне позіркам і, працягваючы руку, сказаў:

— Стасюк.

Я ведаў, што да гэтага прозвішча дадаць яшчэ трэба імя **Аляксандр** і навуковае званне **доктар.** Ведаў таксама, што яго сірочае дзяцінства пачалося ў шматпакутным Райску. Дык хацелася даведацца і пра далёкі і складаны шлях, які прывёў нашага земляка з вёскі, разбуранай гітлераўцамі, ва універсітэцкія выкладчыкі.

— Мая жыццёвая дарога, — распачаў свой расказ доктар Стасюк, — зусім звычайная. Яна падобная на дзесяткі іншых дарог, якімі хадзілі юнакі майго пакалення. Пачатковую школу закончыў я ў вёсцы Гацькі на Бельшчыне, пасля вучыўся ў Бельскім беларускім ліцэі, а затым накіравалі мяне на навуку ў Савецкі Саюз, дзе закончыў я факультэт марксісцкай філасофіі Маскоўскага універсітэта.



*Др Аляксандр Стасюк з дачушкай Галінкай.*

Сапраўды, у гэтай анкетнай схеме змяшчаецца лёс Аляксандра Стасюка, але схема гэта нічога не гаворыць аб трагедыі і радасці яго жыцця.

Нарадзіўся ён 17 студзеня 1934 года. Сын Надзеі і Мікалая. На сёмым годзе жыцця астаўся без бацькі. Пайшоў той касіць траву, нагрэўся, змучыўся, ды прылёг крыху адпачыць. І так прастудзіўся. Ад гэтай прастуды завялася вада ў боку. Лекарскай дапамогі, на жаль, не было. Асталася маладая ўдава. Быў гэта 1941 год. У чэрвені нахлынулі гітлераўцы, а праз год — таксама ў чэрвені — настаў судны дзень для яго роднай вёскі Райск. Сярод ахвяр гітлераўскага варварства знайшлася і яго маці, 30-гадовая Надзея Стасюк.

— Мяне тады ў Райску не было, — успамінае Аляксандр. — Я знаходзіўся ў Арэхавічах, у бацькоў майго бацькі. І там я даведаўся, што здарылася з маёй мамай і з іншымі жыхарамі Райска.

Наведваць спалены і разбураны Райск сурова забаранялася. За гэта пагражаў расстрэл. Аднак некаторыя адважыліся нават раскапаць брацкую, пакутніцкую магілу.

— Я быў пры гэтым, — кажа наш зямляк. — І тады яшчэ раз убачыў сваю

Працяг на стар. 4

 




## ШТО НОВАГА Ў РЭНТАХ?

Сейм Народнай Польшчы законам ад 29 мая 1974 г. змяніў ранейшыя і ўстанавіў новыя правілы аб рэнтах для інвалідаў вайны і іх сем'яў і для вайсковых інвалідаў і іх сем'яў. Новыя правілы значна павышаюць рэнты ў грашах, даюць новыя правы, яны больш простыя.

Падставай да вызначэння велічыні рэнты для інвалідаў вайны і іх сем'яў з'яўляецца новая найніжэйшая рэнтавая сума 2200 зл. Інвалідам I і II груп яна прызнаецца ў 100 прац., а інвалідам III групы — у 65 прац. Спецыяльны дадатак на догляд (пеленгнацыйны) для інвалідаў I групы павышан з 400 зл. на 1100 зл., інвалідам іншых груп гэты дадатак павялічваецца да 500 зл. Апрача гэтага, ёсць яшчэ дадаткі за дзяржаўныя ўзнагароды, на ўтрыманне жонкі і сямейны дадатак. Такім чынам, інвалідная рэнта I групы павялічана з 2160 зл. да 3400 зл., г. зн. на 1140 зл., II групы — з 1510 зл. на 2200 зл. (больш на 690 зл.), а III групы — з 1130 зл. да 1430 зл. (больш на 300 зл.).

Павялічаны таксама рэнты для сямей загінуўшых салдат і памершых ваенных інвалідаў. Падставай да вызначэння з'яўляецца таксама сума 2200 зл. Калі да атрымання гэтай рэнты мае правы адна асоба, яна атрымае 1320 зл. (больш на 310 зл.); калі дзве, яны супольна атрымаюць 1650 зл. (больш на 570 зл.); калі тры або болей, яны атрымаюць супольна 1870 зл. (больш на 720 зл.).

Усе іншыя дадатковыя правы інвалідаў вайны і іх сем'яў захаваны, апрача іх, інвалід мае права атрымаць накіраванне на лячэнне не менш, чым раз на тры гады ў форме лекарскага звальнення, павялічваецца яму таксама адпачынак на 10 дадатковых дзён, мае права на 50 прац. платы за білет на ПКП і ПКС.

Паводле новага закону, павышаны таксама рэнты для вайсковых інвалідаў і сямей памершых вайсковых інвалідаў.

Калі інваліднасць узнікла ў сувязі з ваеннай службай, дык у сярэднім рэнта I групы павялічана на 125 зл., II групы — на 440 зл. і III групы — на 190 зл. Найніжэйшыя рэнты (без дадаткаў) устаноўлены на: 1600 зл. — I група, 1300 — II група, 900 зл. — III група.

Калі ж інваліднасць вайсковага інваліда ўзнікла не ў сувязі з ваеннай службай, дык у сярэднім рэнта I групы павялічана на 290 зл., II групы — на 455 зл. і III групы — на 360 зл. Найніжэйшыя рэнты (без дадаткаў) для гэтага віду інваліднасці ўстаноўлены на: 1200 зл. — I група, 1050 зл. — II група, 850 зл. — III група.

Павышаецца таксама рэнта для членаў сем'яў памершых салдат і вайсковых інвалідаў найменш на 140 зл. на адну асобу, на 170 зл. — на дзве асобы і на 200 зл. на тры і болей асоб. Пры гэтым сямейная рэнта без дадаткаў не можа быць меншай, чым 900 зл. на адну асобу, 1000 зл. на дзве асобы і 1100 зл. — на тры і болей асоб.

Агульная сума павышэння рэнтаў для інвалідаў вайны і вайсковых і іх сем'яў складзе ў год 253 мільёны злотых.

Адначасова Прэзідыум урада дзеля паляпшэння матэрыяльных умоў ветэранаў і іх сем'яў вырашыў павысіць іх рэнту на 300 зл.

Усе гэтыя павышэнні будуць налічаны ваенным і вайсковым інвалідам і ветэранам, а таксама іх сем'ям у ЗУС-е без патрэбы складаць дадатковыя паданні ці якія-небудзь іншыя паперы. Толькі ў выпадку, калі рэнціст мае да выбару рэнту па працы ці па здадзенай гаспадарцы або рэнту ваенную ці вайсковую, павінен з'явіцца ў ЗУС-е, каб скласці адпаведную заяву, якая з гэтых рэнт яму больш адпавядае (да выбару ёсць адна цэлая рэнта і палова другой рэнты).

Новы закон аб ваенных і вайсковых рэнтах абавязвае ад 1 жніўня 1974 г. Беластоцкі ЗУС налічыць новыя рэнты да 4 жніўня 1974 г.

Таксама ёсць новы закон аб рэнтах па здадзеных гаспадарках, але аб ім — у далейшых нумарах „Нівы". (мг)



## СВАІМІ РУКАМІ

На чырвоным палатне белымі літарамі праз усю галоўную кляшчэлеўскую вуліцу транспарант апавяшчаў:

**„МАСАВЫМ ГРАМАДСКІМ ЧЫНАМ АДЗНАЧАЕМ 30-ГОДДЗЕ ПНР"**

Гэты лозунг у Кляшчэлях сапраўды выпаўняецца канкрэтным • зместам. Вось некалькі гадоў таму назад жыхары пасёлка ў асноўным грамадскім чынам пабудавалі прыгожы і прасторны будынак, у якім змяшчаецца цэнтр здароўя і памяшканні для лекараў.

Ды ўвогуле ў Кляшчэлях будуюць штосьці пастаянна. Сведчаць аб гэтым раскапаныя вуліцы, уздоўж якіх пракладалі водаправоды, а таксама ўсё больш паяўляецца там мураваных домікаў-асабнякоў.

Адначасова з перабудовай і пашырэннем вуліц гэтага сельскагаспадарчага пасёлка яго жыхары стараюцца, каб меў ён больш прыгожы выгляд. Між іншым, служыць гэтаму пасадка дрэў, якую праводзяць вучні тутэйшай сельскагаспадарчай школы.

Тэкст і фота **В. Рудчыка**








○ 27 чэрвеня адбылося пасяджэнне Прэзідыума ГП. Першым пунктам яго была ацэнка праведзеных Беларускім таварыствам конкурсаў. Асабліва добра быў ацэнены песенны конкурс, у якім прынялі ўдзел 192 чалавекі, гэта значыць на 34 асобы больш, як у мінулым годзе. На аснове павятовых элімінацый на фінальны агляд у ГП прайшло 112 салістаў, дуэтаў і вакальных груп. Выканалі яны 66 песень (50% фальклорных). Варта падкрэсліць тое, што толькі адна песня была выканана два разы на фінальным аглядзе, які прайшоў на высокім мастацкім узроўні.

Значна слабей быў арганізаваны конкурс тэатральных калектываў. Не адбыліся павятовыя элімінацыі ў аддзелах. У фінальным конкурсе выступіла 6 калектываў, у якіх налічваўся 61 самадзейнік.

Уклад працы паасобных аддзелаў быў няроўны. Гданьскі і дуброўскі аддзелы зусім не займаліся гэтымі конкурсамі. Сакольскі аддзел таксама быў мінімальна актыўны.

У другім пункце пасяджэння Прэзідыум ГП абмеркаваў прадстаўленую інфармацыю аб выдавецкай дзейнасці. ГП за час свайго існавання выдала 41 кніжку (улічваючы і беларускія календары). Найбольш плённы выдавецкі перыяд быў між VI і VII з'ездамі БГКТ. За гэты час выдадзена было 9 кніжак агульным тыражом 34,5 тыс. штук.

Трэцім пунктам пасяджэння было зацвярджэнне плана працы ГП на II паўгоддзе 1974 года.

○ 2 ліпеня выехала ў Мінск 20-асабовая група настаўнікаў беларускай мовы на штогадовы курс па гэтаму прадмету. Найбольш, аж 10 настаўнікаў, паехала з Гайнаўшчыны.

○ 30 чэрвеня ў Рыбаках (Беластоцкі павет) адбыўся народны фэстын БГКТ, аб якім чытайце ў наступным нумары „Нівы". (мх)




**Niedziela 14.VII.** 7.25 Tech. Rol. Dój i higiena mleka. 7.55 Prace żniwne i pożniwne. 8.25 Przyp., radz. 8.35 Now. w domu i zagr. 9.00 Bieg po zdrowie. 9.15 Pr. dnia. 9.20 Płonący Kontynent — film radz. 11.00 Antena. 11.20 Pod znakiem Raka (ZODIAK). 12.00 Dziennik. 12.20 Pr. dla wsi. 12.35 Piosenka pomogła nam przetrwać. 13.05 Nie tylko dla pań. 13.30 Wielka gra. 14.20 Film dok. o kpt. L. Telidze. 15.15 Pegaz. 16.00 Los. Toto-Lot. 16.15 Tele-Echo. 17.05 Refleksje ob. 17.20 Sport. 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Film TVP. 21.20 Festiwal Pios. Żoł. — Kołobrzeg 74 — Koncert finał. 23.20 Sport.

**Poniedziałek 15.VII.** 15.55 Pr. dnia. 16.00 Oferty. 16.15 Dziennik. 16.25 Echo stad. 16.55 Dla młodych widzów. 18.05 Kur. Lub. 18.20 Pr. balet. 18.35 Kr. Warsz. i Maz. 18.55 Reportaż z budowy kopalni „Pomorzany". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.35 Teatr TV: R. Frelek i Wł. Kowalski — „Sprawa polska 1944" cz. I. 22.05 Chwila wspomnień — film dok. 22.35 Recital. 23.05 Dziennik.

**Wtorek 16.VII.** 9.00 Poranek Tel. Najmł. 10.00 Józef Balsamo — film franc. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Dla młodzieży. 17.10 Sylwetki X Muzy — Wiesław Gołas. 17.40 Reportaż film. 18.20 Kr. Warsz. i Maz. 18.40 Laureaci Nagród Państw. 20.20 Józef Balsamo — film franc. 21.20 Sport. 21.30 Interstudio. 22.10 Spotkanie z K. Sienkiewicz. 22.45 Dziennik.

**Środa 17.VII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Gustaw Zemła. 17.00 Magazyn ITP. 17.15 Los. Mał. Lot. 17.25 Manifest Lipcowy. 17.55 W słońcu Karakorum — film dok. 18.25 Kr. Warsz. i Maz. 18.50 Reportaż z bud. kopalni „Rudna". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Człowiek bez adresu — film fab. radz. cz. II. 21.35 Sport. 21.55 Śpiewa B. Mierzejewski. 22.30 Dziennik.

**Czwartek 18.VII.** 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Pr. rozr. bułg. 17.00 Teleferie. 18.10 Kr. Warsz. i Maz. 18.30 Test — Sł. Ekonom. 18.45 Reportaż o bud. Portu Półn. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.20 Dziękujemy. 21.15 Sport. 21.25 Czym żyje świat. 21.55 Al Capone i inni. 22.45 Dziennik.

**Piątek 19.VII.** 10.00 Chleba naszego powszedniego — film TVP. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.45 Poligon. 17.15 Studio Zlot. Tel. Mł. 17.45 Widowisko muz. balet. 18.45 Kr. Warsz. i Maz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.35 Zaśpiewajmy to jeszcze raz. 21.05 Panorama. 21.45 Ekran Wspomnień: Sami swoi — film fab. pol. 23.25 Dziennik. 23.40 Sport.

**Sobota 20.VII.** 9.00 Pr. dnia. 9.05 Bieg po zdrowie. 9.20 Poranek Tel. Najmł. 10.00 Pan Wołodyjowski — film fab. pol. 13.00 My — 74. 14.20 Rep. film. o bud. Zamku Królewskiego. 14.50 Warszawa w piosence. 15.20 Pr. aktualny. 18.00 Koncert z okazji otwarcia Portu Półn. — transmisja z Opery Leśnej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.35 Droga — film TVP. 21.35 Dziennik. 21.55 Sport. 22.05 Gody Lipcowe — widowisko rozr.




**Piątek 12.VII** — 8.00 Koncert. 8.30 Film fab. 13.25 Pr. dnia. 15.10 Czterej pancerni i pies. 16.15 Teatr dla dzieci. 16.30 Koncert. 16.45 W eterze „Młodość". 17.45 Film fab. 20.45 Błękitny Płomyk.

**Sobota 13.VII** — 7.00 Pr. dnia. 9.15 Turniej TV Witebsk — Grodno. 12.30 Film fab. 13.20 Zespół „Drużba". 14.30 Film anim. 15.00 W świecie zwierząt. 16.25 Film dokument. 17.00 Piłka nożna. „Zenit" (Leningrad) — „Dynamo" (Moskwa). 19.30 Festiwal piosenki radzieckiej w Zielonej Górze.

**Niedziela 14.VII.** — 7.00 Pr. dnia. 9.30 Spektakl dla dzieci. 15.20 Cyrk. 16.15 Klub filmowy. 19.30 Koncert. Transmisja z Teatru Wielkiego. 20.45 Mecz lekkoatletyczny ZSRR — Finlandia.




**Białowieża** Goya — NRD, cz. I i II. 16—17. Pozwólcie startować — radz. 18—19. Bubu z Montparnasse — włosk. 20—22.

**Czeremcha** Mordercy w imieniu prawa — franc. 16—17. Wujaszek Wania — radz. 20—21.

**Czyże** Smic, smac, smoc — franc. Telegram — radz. 17—22.

**Dubicze Cerkiewne** Łobuz — franc. Białe słońce pustyni — radz. 17—22.

**Gródek** Przygody Robinsona Cruzoe — radz. 20—22.

**Kleszczele** Śmierć Indianina — rum. 16—17. Podróże z Jakubem — węg. 18—19. Monolog — radz. 20—22.

**Michałowo** Czas życia i miłości — franc. 16—17. Absolwent — USA, 18—19. Ja wam pokażę — NRD 20—22.

**Mielnik** Pożądanie zwane Anadą — czes. 16—17. Przerwana pieśń — bułg. 18—19. Zbrodnia jest zbrodnią — franc. 20—22.

**Milejczyce** Cytadela odpowie — bułg. 16—17 Kto wierzy w bociany — pol. 18—19. Mania wielkości — franc. 20—22.

**Narewka** Front wyzwolenia — pol. El Dorado — USA 17—22.

**Narew** Godzina szczytu — pol. Wesele — pol. 17—22.

**Nurzec** Hajducy kapitana Angelo — rum. 16—17. Nieszczęścia Alfreda — franc. 18—19. Twarz anioła — pol. 20—22.

**Orla** Liliowa akacja — węg. Ściana czarownic — pol. 17—22.

**Rajsk** Góry, rzeki, ludzie — pol. Mordercy w imieniu prawa — franc. 17—22.

B.Z.Graf. zam. 1909 O-3



 

 

# ВЕЦЕР З ПАЛІЧНАЙ

Сярод пясчаных палёў V і VI класаў (паводле афіцыяльнай класіфікацыі) раскінулася вёска Палічна. Дарогі тут добрыя — едуць прасторнай жвіроўкай, пракладзенай за нашых дзён пры дапамозе грамадскай працы ўсіх навакольных вёсак з цікавымі назвамі: Вярсток, Белая Страж, Апака Вялікая, Пагулянка. Паміж вёскамі кучкі сасновых лясоў, бо ж толькі адна сасна і можа на гэтых пясках расці.

Палічна — адна з большых вёсак (80 гаспадароў) жыве і з зямлі, і з заробкаў на чыгунцы ды на мэблевай фабрыцы ў Гайнаўцы, куды даязджаюць аўтобусамі ПКС.

Галоўнымі ўстановамі дзяржаўна-грамадскага характару ў вёсцы з'яўляюцца: школа, сельгасгурток, вялікая і актыўная пажарная каманда з сваёй рамізай (адкрытай у 1963 г.) і клубам „Рух".

У апошні час вакол клуба нарадзіўся і пачаў умацоўвацца аматарскі рух. Моладзь у вёсцы ёсць. Яе больш актыўная частка згуртавалася вакол маладой настаўніцы мясцовай школы — Марыі Буйко. Па рэпертуар гэты малады мастацкі гурток сягнуў да мясцовых звычаяў і самародных талентаў.

У роднай вёсцы на Вялікдзень адбылося першае выступленне з цікавай народнай карцінай, якую самі людзі назвалі „Судзьба". Апрацавала яе Марыя Буйко па расказу мясцовай 40-гадовай жанчыны Ніны Ігнацюк. „Судзьба" — гэта відовішча на падабенства народнай балады з перыяду II сусветнай вайны. Лёс і прыгоды салдата, уплеценыя ў краявід і псіхіку самой Палічнай.

Марыя Буйко ўмее ацаніць такі матэрыял і ўмее працаваць з калектывамі народнага характару. Вяла яна ўжо такія калектывы, працуючы пяць год настаўніцай у Семяноўцы.

У „Судзьбе" выкарыстала мясцовы фальклор, беларускія, рускія і польскія песні, таксама вершы Віктара Шведа. Вадэвіль парушыў публіку, а саміх удзельнікаў заставіў паверыць у свае сілы. 15 маладых асоб у калектыве хоча прадаўжаць працу.

Дырэктар васьмікласнай школы Юрый Янюк многа цікавага расказвае пра сельскагаспадарчы гурток у Палічнай. Гурток мае важкае слова ў свінагадоўлі. Гурток супрацоўнічае са школай, школа з гуртком. Супрацоўніцтва карыснае для абедзвюх устаноў. Гурток давозіць дзяцей з усіх навакольных вёсак, ён прыняў патранат над школай. Даў трохі грошай на школьную экскурсію ў Гданьск для VII і VIII класаў. А школа гуртку памагае бульбу выкапаць, дзяцінец арганізавала ў мінулае лета і арганізуе ў гэтым годзе.

У подмухах ветру ідзем з дырэктарам прасторнай і сонечнай вуліцай вёскі ў кантору сельгасгуртка. Цесната. Застаем бухгалтара Ніну Каўбасюк. Начальства паехала па „Стара" ў Стараховіцы. Коратка, нібы тэлеграфнай сістэмай Ніна Каўбасюк рысуе іхнія поспехі за апошнія гады. Пасля прадукцыйнай спулдзельні асталіся будынкі. Падумалі, што варта зрабіць рамонт і гадаваць там свіней. Чатыры асобы працуюць у аборы. Маладняк купляюць у мясной цэнтралі ў Бельску і крыху ад гаспадароў. Пачалі ў „малой хлеўні" ад 60 штук, а цяпер, пасля рамонту ў будынках, маюць ужо 450 штук. Для гадоўлі бяруць свінчукі па 26 кг і гадуюць іх да 104 кг (3 месяцы), так, каб папалі ў I клас. У гэтым годзе да 30 красавіка прадалі 362 цэнтнеры мяса. І яшчэ ўзяліся апрацоўваць 140 гектараў зямлі ПФЗ. Гурток мае 11 трактараў, камбайн „Бізон".

Чыя заслуга? „Заслуга праўлення, — так Ніна. — Членаў у нашым гуртку 53 разам з бабамі". (19 асоб з гуртка вясковых гаспадынь таксама ўваходзяць у сельгасгурток як яго члены). Прэзасам з'яўляецца малады Федзя Леўчук, а дыспетчарам заслужаны стажам працы Юрый Зінчук.

Апрача культурнай і гаспадарчай дзейнасці, развіваецца ў Палічнай яшчэ і спартыўная дзейнасць. Ініцыятарам і апекуном яе з'яўляецца дырэктар школы, сам спартсмен і вялікі прыхільнік фізкультуры. Школьны спорт у яго стаіць на высокім узроўні. А з былых вучняў дырэктара вырасла футбольная каманда вёскі (15 асоб), якая інтэнсіўна трэніруецца і якая з'явілася заснавальнікам гуртка ЛЗС у вёсцы. Першы (сяброўскі) матч з Чаромхай Палічна выйграла з лікам 4:1. Гуртком ЛЗС кіруе Саша Філіновіч.

**Вера Леўчук**

## СВЯТА МАЛАДОСЦІ Ў НАРВЕ

Над ракою непадалёку ад пасёлка Нараў Гайнаўскага павету адбылося Свята маладосці, спалучанае з павятовым злётам перадавікоў вучобы і працы.

У афіцыйнай частцы ўдзельнікі ўрачыстасці знаёміліся з вынікамі грамадскай працы моладзі і найлепшымі маладзёжнымі дзеячамі з Гайнаўшчыны: Аннай Шпаковіч з Белавежы, Галінай Філіманюк з Асоўкі, Марыяй Буйко з Палічнай, Мечыславам Карпеем з Гайнаўкі, якія прымуць удзел у сёлетнім краёвым злёце перадавікоў вучобы і працы ў Варшаве.

Праграма злёту прадугледжвала канцэрт маладзёжных музычных калектываў і турнір вёсак Крывец — Трасцянка. Адбыліся паасобныя канкурэнцыі: пілаванне дрэва, конкурс на найпрыгажэйшы плакат і букет з палявых кветак, турнір грамадска-палітычных ведаў, абрадавыя сцэнкі, футбольныя розыгрышы жаночых каманд, спаборніцтвы пажарнікаў, перацягванне каната, спаборніцтвы вясковых асілкаў, бегі ў мяшках і іншыя.

Турнір закончыўся ўнічыю з лікам 93 : 93.

Свята маладосці закончылася абрадамі ночы Купалы — дзяўчаты пускалі вянкі па рацэ, адбыўся пешы рэйд у пошуках папараці-кветкі і народнае гулянне пры вогнішчы.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*Абрадавая сцэнка ў выкананні трасцянніцкіх жанчын.*



*Калядныя песні заспявалі крывецкія ўдзельнікі.*



*Маладыя асілкі паднімалі гіру.*

## ЗАДРЫПАНКА

# ФЭСТ

Гмінны выган гудзеў, прадвяшчаючы вальпургіеву ноч. Сам Дакладчык, які з высокай (на платформах) трыбуны хвацка змагаўся з алкагольнымі напіткамі (ворагам № 1) і які без хістання ўзлажыў на варожыя плечы ўсе нашы беды (з маральным разбэшчаннем і гэдэ), цяпер на падазрона няўстойлівых нагах усё каруселіў навокал жонкі начальніка, выклікаючы гэтым зласлівыя рэплікі (Блазнюк, я табе клепкі паўстаўляю!) з боку свaёй благавернай.

— Выпрацоўвае стойкі імунітэт супраць варожага ўплыву, — пракаменціраваў духовы стан Дакладчыка Кастусь.

Аднаму начальніку было не да жартаў. Асабліва, калі Дакладчыха абазвала яго жонку варонай загуменнай. Зрабіў пралік, саджаючы жонку паміж Прадстаўніком і Дакладчыкам. Кастусь жа раіў уганараваць толькі Прадстаўніка (Прадстаўнік, як вядома, ездзіць на ўрачыстасці без жонкі). Цяпер Дакладчыкава раўнівіца гатова ўчыніць скандал на ўсю гміну. Ды й Прадстаўнік сумна лыпае. Але ў яго, відаць, гэта прыроднае. У прэзідыуме (на платформах) таксама стаяў асавелы, і невядома было, ці яму тут нешта не спадабалася, ці высокапастаўлены жывоцік колкі схапілі. Нават калі спыталі, ці пачынаць, не азваўся, толькі варухнуў пакутніцкі губамі і апусціў долу вялыя павекі. Усе зразумелі, што гэта знак згоды, але калі начальнік адкрыў фэст, даючы слова Дакладчыку, Прадстаўнік прачнуўся з дрымоты і паглядзеў на начальніка з яўным гневам. А здаецца і прывіталі (публічна) як трэба, і прадставілі (таксама з трыбуны) усе яго заслугі перад гмінай. А мо трэба было спярша яму даць слова?.. Не павесялеў Прадстаўнік, і калі пеўчыя, часова адкліканыя з царкоўнай службы, грымнулі ў яго гонар „Многія лета".

Ратавалі цяжкае становішча, як патрапілі. Калі з'явілася на сталах хатняя каўбаска і смутныя вочы Прадстаўніка азарыліся ўспышкай пажадання, падсоўвалі яму найсмачнейшыя кавалачкі. За кожным тостам чаркі хіліліся ў яго бок. А ён маўчаў. А калі і выдаваў нейкія гукі, дык іх шматзначнасць таксама збівала з панталыку. Гэтак было, напрыклад, у часе спаборніцтва ў галіне „канат", калі гмінная адміністрацыя, зросшыся з сваім канцом, зямлю грызла, а не хацела ўступіць вяроўку актывістам. Тады Прадстаўнік кінуў: „Во!". І адны тлумачылі гэта як адабрэнне, а другія даказвалі адваротнае.

Нічым немагчыма было Прадстаўніка зацікавіць. У час азартнага футбольнага матча на Кубак Начальніка, калі „Задрыпонія" хвалявымі атакамі асаджвала вароты зборнай суседняга сяла, Прадстаўнік звярнуў толькі ўвагу на дзядзьку, што за варотамі суседзяў адпраўляў нейкі язычаскі малебен. Калі аднак яму вытлумачылі, што гэта Кастусь — наш футбольны тэарэтык адчароўвае святыню працаўніка, зноў увайшоў у ранейшую ролю.

Не магла тады і прывабная начальнічыха запусціць Прадстаўніка на сваю арбіту. Задаволілася Дакладчыкам, які хоць і не гаварыў нічога новага, але вымоўна падкрэсліваў яе спакусы.

Адлягло начальніку ад сэрца, калі Прадстаўнік, успомніўшы нешта, падарыў камусьці далёкаму ласкавую ўсмешку, і, сказаўшы „пара, брат, пара", сеў у чорную „Волгу" і пакаціў у сінюю даль.

Вось калі і пачаўся сапраўдны фэст. Але гэтага ўжо пратакаліраваць не прынята.

**ДЗЗ**

### ГРАМАДСКІЯ ЧЫНЫ ШКОЛЬНІКАЎ

Вучні з прафесіянальных школ у Гайнаўцы ўключыліся ў пабудову амфітэатра і фантана ў гарадскім парку 30-годдзя ПНР. Яны ўпарадкавалі вуліцы Дварцовую і Бочную, садзілі кветкі, зрабілі дваццаць лавак і столькі ж кашоў на смецце, а таксама таблічкі на гарадскія клумбы і газоны. (ця)



 

 




Футбол. Футбол. Гэтае слова гучыць, як удар ступні па мячы. Так і бачым адразу зялёную плошчу стадыёна, людскі мурашнік на трыбунах — і Іх.

Іх — дзве каманды: хлопцы, як ільвы, гатовыя на ўсё, каб толькі авалодаць скураной кругляцінай і загнаць яе ў вароты праціўніка.

Яны — рыцары дваццатага стагоддзя. Рыцары блудныя (прывычна ў іх блудзіць з каманды ў каманду ў пошуках лепшых умоў). Рыцары бота, ступні і... падножкі.

Усё замерла. Святар-суддзя ўзняў угору руку. Свісток. І шматтысячныя веруючыя ў аут і гол раўнулі. Матч пачаўся.

Колькі эмоцый! Вось форвард праціўніка небяспечна наблізіўся да нашых варотаў. Па плячах дрыжыкі пайшлі. Язык калом прысох да нёба. Калі б у гэты момант чалавеку хто цвік у зад загнаў, то, здаецца, не адчуў бы.

Глядзім, а ён ужо, кіўнуўшы бёдрамі, абмінуў нашага абаронцу і зграбна перакінуў мяч у цэнтр поля. З-за плячэй іншых ігракоў, як куля, выскачыў форвард праціўніка. Сэрца ёкнула — кот, здаецца, па ім заскроб кіпцюрамі. Кароткая прымерка... і рэзкі ўдар. З жаху вочы заплюшчыліся, галаву абручом сціснула. Не! Не! Усё-такі міма. Раптоўная палёгка. Спакойна ўжо даліваеш у шклянку з вадою валерыянкі і п'еш захлёбам.

І вось уявіце, любенькія, што падчас сусветнага футбольнага чэмпіянату, перад самым спатканнем Польшча-Аргентына, у нас сапсаваўся тэлевізар.

Значыцца, не зусім сапсаваўся. Вобраз ёсць, і выразны нават, а вось голасу — ні гу-гу.

Уся сям'я ў зборы. Расселіся сістэмай 3-1-1 (цёшча з дзецьмі на ложку, а мы з жонкай у крэслах), ігракі ўжо забегалі па экране, а тэлевізар маўчыць.

Разумееце, якая трагедыя! Я вырашыў дзеля агульнага дабра замяніць дыктара. Я ж і ў правілах разбіраюся, і з тэрміналогіяй каментатараў азнаёмлены... Папіў вады, паварочаў языком дзеля гімнастыкі ўлева, управа і пачаў...




...Геніяльна! Геніяльна! Дэйна накіраваў мяч да Гадохі, той маментальна перакінуў яго на левы фланг. Скуль не ўзяўся Шармах. Не! Не! Гэта не Шармах, гэта Лята прэ ва ўсе лапаткі. Так, Лята. Гжэгаж Лята. Маланкавы ўдар — і ёсць. Ёсць!! Ёсць! 2:0! 2:0! На стадыёне ў Штутгарце на 20-ай мінуце спаткання Польшча-Аргентына Гжэгаж Лята забівае другі гол. Хвалёны варатар Карнавалі, нягледзячы на тое, што ў паветры ў дугу сагнуўся, плюхнуўся толькі пупом на пустое месца...

...Маем 13-ую, не, 15-ую мінуту другой палавіны спаткання. Праціўнік выразна разгубіўся. Мяч ад нашых варотаў выбівае Горгань. Пераняў яго Машчык. Каля яго двое аргентынцаў... Куды? Куды лезеш? Стой, нямытае падла! Цудоўна! Т-а-а-к! Т-а-а-к яго! Цудоўна! Цудоўна! І навошта ж гэты аболтус суддзя свішча?

Форвард праціўніка за ладыжку трымаецца, упаў — вые, уверх ногі задраўшы. Бягуць лекар, масажыст і двое з насілкамі. Цудоўна! Геніяльна! Нашыя дасканала кантралююць ігру, не дазваляючы чужакам на ніякія камбінацыі...

...Мы ізноў пры мячы. Шыманоўскі пад'язджае пад сярэдзіну поля. На пазіцыю выходзіць Лята. Каму падаеш? Каму падаеш? Хоць нічога. Мяч ён круглы — часам і сляпому пападзе пад ногу. Аргентынцы ўжо на нашай палове. Нельга сказаць, тэхніка ў іх адмысловая. Што ж гэта аднак супраць нашых непахісных волатаў-абаронцаў!

Форвард праціўніка дрыблюе. З поспехам абмінуў Горганя. Рвецца да нашых варотаў. І куды ж толькі глядзіць гэты суддзя? На мыла! На мыла яго! Ну, свішчы ж, кол асінавы, чаго вылупіў вочы? Ну свішчы ж, урэшце!

А гэты ўсё бліжэй — таранам прабіваецца. Да нашых варотаў не больш як 15 метраў. Дрэнь сітуацыя. Падножку! Падножку яму с... с..., у каленку рубані, каб другім не повадна было. І дзе ж той вырадак суддзя вочы мае? Божа, божа! — глядзіш і не грымнеш... Б'е! Б'е, нехрысць, як з гарматы... Тамашэўскі! Дзе Тамашэўскі?.. Пусціў... Пусціў, каб яго чэрці ў пекла пусцілі...

О! О! Цяпер дык свішча, крумкач падскубаны. На мыла суддзю! На мыла!

І так да канца матча. Усё горла перасохла. А мая сямейка ўсё ж незадаволеная. І тэмп, кажуць, не такі быў і каларытнасць сказаў не такая, як у прафесіянальных каментатараў. Не дагадзіў, адным словам.

Вядома — аматаршчына.

**Ларс**




## Беларуская літаратура на свеце

Выйшла ў свет невялічкая па аб'ёму, але надта ж важкая сваім зместам і займальна напісаная кніжачка Ванкарэма Нікіфаровіча **„Усяму свету — свой дар"** (бібліятэчка газеты „Голас Радзімы", Мінск 1973). Прысвечана яна перакладам твораў беларускай савецкай літаратуры за межамі СССР.

Напэўна не ўсім вядома, што ў першыя гады пасля вайны польскі чытач атрымаў пераклады дзвюх аповесцей Я. Коласа „У палескай глушы" і „Дрыгва". У 1951 г. „Дрыгва" выходзіць таксама ў славутай серыі „Бібліятэка выбранага слова", а ў серыі „Літаратура народаў СССР" паяўляюцца „Апавяданні" М. Лынькова. У тым жа годзе выходзяць таксама „Пад мірным небам" А. Стаховіча, „Андрэйка" П. Кавалёва і „Вяснянка" Т. Хадкевіча. Першая сустрэча польскага чытача з Я. Брылем адбылася ў 1953 г. дзякуючы выданню яго аповесці „У Забалоцці днее" і некалькіх апавяданняў, а ў 1971 г. выходзіць зборнік яго апавяданняў „Гледзячы на траву", неўзабаве павінны выйсці „Вітражы" гэтага ж беларускага празаіка. Падобна ў 1953—1954 гг. выходзяць два выданні рамана І. Шамякіна „Глыбокая плынь", а ў 1968 г. паяўляецца яго ж „Сэрца на далоні". Вялікі раман-эпапея М. Лынькова пра партызанскі рух на Беларусі „Векапомныя дні" выходзіць у 1968 г. У 1963 годзе выданнем „Трэцяй ракеты" было пачата знаёмства польскага чытача з дасканалай прозай В. Быкава, „Альпійская балада" якога выходзіць у 1970 годзе, а затым і іншыя творы. У 1968 г. паяўляюцца „Людзі на балоце" І. Мележа.

Не менш багата прадстаўлены таксама пераклады на польскую мову твораў беларускай паэзіі. У 1951 г. выходзіць „Казка пра музыку" М. Танка, у 1958 г. — яго зборнік „Выбраныя вершы", у 1965 — зборнік „На шляху дзікіх гусей", а ў 1968 г. — „Зімовая прыгода". У анталогіі „130 паэтаў. Савецкія паэты" (1957 г.) былі змешчаны пераклады вершаў Я. Коласа, П. Броўкі, А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанкі. У 1958 г. выходзяць „Выбраныя вершы" Я. Купалы, а ў 1962 — зборнік яго паэзіі „Бледныя будні дні". Падобна шэраг твораў беларускіх паэтаў увайшлі ў зборнік Л. Левіна „У сяброў" (1961 г.), які выйшаў таксама ў пашыраным аб'ёме ў 1966 г. У анталогіі „Беларускія вершы" (1971) змешчаны творы 50 беларускіх паэтаў.

З беларускай драматургіяй польскі глядач упершыню сустрэўся на п'есе „Хто смяецца апошнім" К. Крапівы ў пастаноўцы варшаўскага тэатра „Сірэна". „Несцерку" В. Вольскага ставяць Музычны тэатр у Варшаве і тэатр у Чэнстахове, ставяцца таксама п'есы іншых беларускіх драматургаў, а ў 1973 г. беластоцкі тэатр з поспехам выступае з п'есай А. Макаёнка „Трыбунал".

Вялікая колькасць перакладаў, вершаў, паэм, апавяданняў, навел і выбраных урыўкаў з аповесцей і раманаў беларускіх пісьменнікаў паяўлялася ў гэтым часе ў перыядычных польскіх часопісах, асабліва на старонках „Камэны", „Барваў", а таксама іншых часопісаў. Перакладамі беларускай літаратуры займаюцца польскія пісьменнікі В. Варашыльскі, К. А. Яворскі, Я. Кабатц, Я. Гушча, С. Фурманік і многія іншыя.

Не менш багата, чым у Польшчы прадстаўлены выданні перакладаў твораў беларускіх пісьменнікаў у Чэхаславакіі, Балгарыі, Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы, значная колькасць іх выходзіць у Венгрыі, Румыніі, Югаславіі, Манголіі, Карэі.

У Італіі выходзіць абшырная манаграфія Дж. Месіны „Беларуская літаратура", у Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі „Сотнікаў" В. Быкава, у Францыі Л. Арагон перакладае Я. Купалу, П. Броўку і іншых беларускіх аўтараў. Англійскі паэт Уолтэр Мэй рыхтуе анталогію беларускай паэзіі. „Альпійская балада" В. Быкава выйшла таксама ў далёкай Калькуце.

Словам, сапраўды беларуская літаратура „Усяму свету нясе свой дар".

(мг)

### ЗАЛАТЫЯ РУКІ

Багата наша Беласточчына скарбамі каштоўнымі — таленавітымі, смякалістымі людзьмі, якія, на што ні глянуўшы, усё змайстраваць патрапяць. Суседзі называюць іх з пашанаю „людзьмі з залатымі рукамі".

Жыццёвыя ўмовы, а перш за ўсё вайна не дазволілі Яну Гаўрылюку з лясной вёсачкі Ажыннік, што знаходзіцца ў Васількоўскай гміне Беластоцкага павету, закончыць нават пачатковую школу. Уся яго адукацыя — гэта шэсць класаў вясковай школкі. Але Я. Гаўрылюк умее адрамантаваць як след любую сельскагаспадарчую машыну, нарыхтаваць першакласную сталярку, зрабіць густоўную мэблю, змайстраваць з матацыклетнага матора і коннай жняяркі самабежную жняярку. За некалькі тысяч злотых ён набыў цалкам выэксплуатаваную „Сірэнку" і без вялікіх коштаў, сваёй старанная працай давёў машыну да бляску і шыку. Ходзіць яна па пясчаных ды выбаістых дарогах, як швейцарскі гадзіннік. Гаспадарка, дом і ў доме — усё ў яго, як шклянка.

Сапраўды, залатыя рукі ў Яна Грыгарука.

**Тэкст і фота І. С.**




### У РАССПЯВАНЫМ ЛАГЕРЫ

Над ракою Супрасль у маляўнічай мясцовасці Пулька Беластоцкага павету размясцілі лагерныя палаткі гарцэры з беластоцкага павятовага гуфца. Ад 22 чэрвеня прабываюць тут 122 асобы. Палаткі знаходзяцца пад пахучымі галінамі сасновага бору. Яны цудоўна ўпрыгожаныя, рознаколерныя. Ля іх увіхаюцца гарцэры і гарцэркі.

— У рамках праграмных задач пад лозунгам „Шляхам перамен", — гаворыць камендантка лагера Данута Скорэк, — гарцэры знаёмяцца з мясцовымі цікавымі людзьмі, з тутэйшымі прадпрыемствамі: тартаком, фабрыкай мэблі і іншымі прадпрыемствамі, з помнікамі прыроды, сустракаюцца з пагранічнікамі, рыхтуюць уласную карту супрасльскага наваколля.

Пабыўкай у лагеры ўсе яго ўдзельнікі вельмі задаволеныя. Тут можна паглядзець тэлевізійную праграму, навучыцца новым песням і мелодыям, добра адпачыць, пазагараць на сонцы на пляжы, здабыць спартыўны ганаровы значок МОСО.

Моладзь у рамках акцый „Гарцэрскі чын на 30-годдзе ПНР" і „Гарцэрскі колас Айчыне" абавязалася ўпарадкаваць лясныя супрацьпажарныя дарожкі, а таксама дапамагчы пры ўборцы сёлетняга збожжа адзінокім і пажылым жыхарам Супрасльскай гміны.

Гарцэры часта арганізуюць мастацкія выступленні для тутэйшага насельніцтва, любяць сабрацца ля вогнішча, паспяваць і патанцаваць. Асабліва пагоднімі вечарамі далёка ад кастра плывуць меладычныя гарцэрскія напевы. Тады нават пажылому чалавеку прыходзяць на ўспамін маладыя гады. Так і хочацца прысесці ля кастра, паўспамінаць усё прыгожае, беспаваротна мінулае. (ця)

### ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

### ЯН ТАРАСЕВІЧ



Добрым гаспадаром у Міхалоўскай гміне лічыцца малады, але вопытны ў сваёй справе селянін з вёскі Пянькі — Ян Тарасевіч. Гадуе ён дванаццаць кароў. Намераны аднак лік іх прынамсі падвоіць на будучы год. Мае ён адзін з самых сучасных, поўнасцю механізаваны кароўнік. Глядзець яго прыязджаюць да Яна Тарасевіча сяляне не толькі з Беластоцкага, але і іншых паветаў. Нядаўна Ян Тарасевіч пачаў карыстацца новай электрадаілкай „Альфа-Ляваль". Перадавы пяньколскі гаспадар за прададзенае ў мінулым годзе малако атрымаў больш ста тысяч злотых. Цяпер заключыў ён шматгадовы дагавор з малочным кааператывам у Міхалове на дастаўку 20 тысяч літраў малака ў год.

Ян Тарасевіч мае ўласны навюсенькі трактар і шматлікія падвесныя сельскагаспадарчыя машыны. Атрымлівае высокія ўраджаі збожжавых культур і бульбы. Усе палявыя працы выконвае пры дапамозе машын. Вядзе таксама доследныя палеткі з азімымі, а ў тым ліку з жытам „панцэрным". Пры вялікай колькасці кароў неабходна прызапасіць розных кармоў на зіму. У сувязі з тым вопытны гаспадар ужо ўлетку праводзіць нарыхтоўку кішонак у двух розных па будове сіласах. Сочныя пашы смакуюць рагатым красулям, ды і малако мае большы працэнт тлушчу.

Ян Тарасевіч вядомы не толькі як прыкладны на ўсю ваколіцу гаспадар. Ён таксама дзелавіты грамадскі дзеяч — з'яўляецца радным Павятовага ўпраўлення і членам надзорчай рады ў міхалоўскім малочным кааператыве.

За высокія прадукцыйныя вынікі на гаспадарцы і адказную грамадскую дзейнасць ён узнагароджаны Бронзавым Крыжам Заслугі і значком „Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі".

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**

### ФАЛЬКЛОР

122

**СЕНАКОСНАЯ**
*(„КОСЬБЯНАЯ")*

*Ой, як я была малою діевчыною,*
*Дівіліся хлопцы круоз стіену шчылінoю,*
*Дівіліся хлопцы круоз стіену шчылінoю.*
*Ой, як я стала такая, як і людэ —*
*Ніодён мовів: „Мэю мілою бу(дэш)",*
*Ніодён мовів: „Мэю мілою бу(дэш)"*
*Ой, як я пуошла за ліхого чоловіека,*
*Людэ говорат: „Діевчына хворовіека",*
*Людэ говорат: „Діевчына хворовіе(ка)".*
*Ой, як я пуошла за ліхого гораба,*
*За рочок, за два стала старая баба,*
*За рочок, за два стала старая ба(ба).*

Ад Анны Крупіч, 1912 г. нараджэння, вёска Дабрывада Гайнаўскага павету, запісаў 27 лютага 1974 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.
„Косьбяные" песні спяваліся ў часе сенакосу.
Мелодыя, як у раней змешчанай „косьбяной" („Ты — богачов сын, а я — вдовіна дочка...").



 

*З французскага гумару*

# РАХУНАК

Пражыўшы два дні ў заняпалай гасцініцы і атрымаўшы рахунак на пяцьсот франкаў, я вырашыў пагаварыць з гаспадаром.

— Пардон, масье, — пачаў я. — Адкуль такі вялікі рахунак? Вы паставілі нам чатыры дні, а мы не пражылі ў вас і трох: прыехалі ў панядзелак ноччу, а сёння раніцай ужо ад'язджаем.

— Панядзелак, аўтарак, серада, чацвер — чатыры дні! — запярэчыў мне гаспадар.

— Дык нельга ж лічыць панядзелак: мы ж прыехалі каля паўночы, а чацвер толькі што пачынаецца!

— Такое правіла, масье: калі дзень пачаўся — ён уключаецца ў рахунак.

— Ну добра... Але вытлумачце, чаму вы палічылі нам па два франка ў дзень за электрычнасць? Святла ж не было ўсе два дні, пакуль мы ў вас жылі!

— Так, святла не было, але вы, павінен заўважыць, ад гэтага зусім не пацярпелі: вам падавалі свечкі.

— Так, свечкі былі, і вы іх са спакойным сумленнем таксама ўключылі ў рахунак.

— А як жа? Яны ж дастаюцца не дарма!

— Дык тады не лічыце электрычнасць!

— Немагчыма, масье. Электрычнасць — гэта звычайны расход, а свечкі — дадатковы!

— А чаму вы нам палічылі паперу і чарніла? Мы нічога не пісалі.

— Вы не пісалі — затое для вас пісалі!

— Хто ж? — раззлаваўся я ўрэшце.

— Мы! Вечарам, калі вы прыехалі, мы запісалі вашы прозвішчы. Кожны дзень за абедам вам падавалі меню — таксама на паперы, прашу заўважыць! І нарэшце, вось ваш рахунак — ён таксама напісаны на паперы!

Гэты довад канчаткова ашаламіў мяне, і я прызнаў сябе пераможаным!

**Альфонс Але**




*Без слоў.*

### ПАЧАКАЕ

Адзін аўтар дэтэктыўных раманаў славіўся быстрынёй, з якою ён пісаў свае творы. Аднойчы яму пазваніў выдавец, і сакратар пісьменніка адказаў:

— Я не магу цяпер непакоіць шэфа, ён піша свой новы раман.

— Нічога, — адказаў выдавец, — я пачакаю ля тэлефона, пакуль ён яго закончыць!

### ДЗІЎНА

Псіхіятр:

— Дык вы гаворыце, што плаціце падаткі з радасцю? І калі гэта ў вас пачалося?





*З жыцця вышэйшых сфер.*

### ВЫТЛУМАЧЫЎ

Прайшло ўжо некалькі дзён з той пары, як у маленькага Антуана з'явілася сястрычка, і яго сябра П'ер пытае, як яна яму падабаецца.

— Нічога, зразумела, але я б усё-такі аддаў перавагу брату.

— Дык папрасі бацькоў, хай яны абмяняюць яе ў магазіне.

— Ну так, хто ж яе будзе мяняць! Мы карыстаемся ёю ўжо цэлы тыдзень.

### НЕ ЗРАЗУМЕЎ

— Ці не пазычыў бы ты мне дзесяць марак?

— У мяне няма з сабой грошай.

— А дома?

— Дзякуй за запрашэнне, але я спяшаюся.

### УСЁ ЯСНА

У Парыжы праходзячая машына абхляпала карсіканца граззю, і ён доўга і галосна дакараў парыжан:

— Вось у нас, на Корсіцы, у такім выпадку шафёр неадкладна выходзіць з машыны, просіць прабачэння, запрашае дамоў, дакладна чысціць вопратку, частуе шампанскім, астаўляе ў сябе начаваць, наступнай раніцай корміць снеданнем і яшчэ дае грошы на зваротную дарогу.

— Не можа быць! — усклікае парыжанін.

— Можа! Клянуся вам!

— Гэта з вамі здарылася?

— Не, з маёй жонкай!

...Ён гаварыў: калі кожнаму — сваё, дык каму ж дастанецца чужое?!

...Ён гаварыў: у кожным лесе — свой Чорт.

### САБАКАРЫ

Братамі мне —
усе жывыя.
Люблю ласёў,
люблю баброў.
Але здаецца,
што завыю
Ад гарадскіх сабакароў.
Калі дзябёлыя кабеты
І дзецюкоў джынсовых раць
Вязуць,
вядуць,
нясуць, як дзетак,
Сабак і сучак „прагуляць".
Ім трэба свежае паветра,
Вячэрні сціщаны прастор,
Ступаюць колі,
нібы мэтры,
Ідзе насуплены баксёр.
Імчаць настырныя аўчаркі,
Сапе раскормлены бульдог.
Як вераб'і ў зімовым парку,
Балонкі ціснуцца да ног...
А побач
юныя бароды
Размовы тонкія вядуць
Не пра прыроду —
пра народ,
Пра чуйны нюх
і лёгкі дух.
Любуюцца з замілаваннем
І з веданнем —
што ні кажы,
Як іхні псюк ля дрэва стане
Ці хвост памацае чужы...
Тады ваўком завыць гатовы
Я між разбэшчаных звяроў...
Не пра сабак я —
што вы,
што вы!
Мой гнеў —
супроць гаспадароў.
Я б зразумеў іх,
каб не ведаў,
Што з радаслоўнаю шчанюк
Для іх мілей,
чым сын суседаў
Ці нават родны свой унук.
Я б паважаў іх,
каб не бачыў,
Што ім дайсці няма калі
Ад клопатаў пра лёс сабачы
Да клопатаў пра лёс зямлі...
Спяшаюць галубы схавацца,
Малеча тоіцца ў двары,
Калі клыкастых гадаванцаў
Выводзяць зноў сабакары.

**Генадзь Бураўкін**

### ДЗЯДЗЬКА

Дзве сяброўкі гутараць:

— Мары сказала, што дзядзька падарыў ёй каралі з сапраўднага жамчугу.

— Не веру. Або дзядзька непраўдзівы, або жамчуг фальшывы.

### ПАКРЫЎДЗІЎСЯ

Позна вечарам з казіно выходзіць дама. Тут жа каля яе з'яўляецца малады чалавек і гаворыць:

— Мадам, дайце мне грошай.

— Як вам не сорамна! — абураецца дама. — Такі малады і ўжо жабруе!

— Выбачайце, мадам, — пакрыўдзіўся чалавек, — я не жабрак, я рабаўнік.




*— Патрымайце, калі ласка, яшчэ секундачку, пане паліцэйскі...*

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Міколы Варанецкага з Альхоўкі Гайнаўскага павету змяшчаем папулярную савецкую песню*

## ПШЕНИЦА ЗОЛОТАЯ

*Стихи М. Исаковского*
*Музыка М. Блантера*

Мне хорошо, колосья раздвигая,
Сюда ходить вечернею порой.
Стеной стоит пшеница золотая
По сторонам дорожки полевой.

Всю ночь поют в пшенице перепелки
О том, что будет урожайный год,
Ещё о том, что за рекой в поселке
Моя любовь, моя судьба живет.

Мы вместе с ней в одной учились школе,
Пахать и сеять выезжали с ней,
И с той поры мое родное поле
Еще дороже стало и родней.

И в час, когда над нашей стороною
Вдали заря вечерняя стоит,
Родное поле говорит со мною,
О самом лучшем в жизни говорит.

И хорошо мне здесь остановиться
И, глядя вдаль, подумать, помолчать.
Шумит, шумит высокая пшеница,
И ей конца и края не видать.

### У РЭСТАРАНЕ

У рэстаране наведвальнік пытае афіцыянта:

— Што вы мне раіце: яйкі ўсмятку ці амлет?

— Не бярыце яек усмятку, масье, яны нясвежыя, вазьміце лепей амлет, у ім няма яек.



*— Што ў чорта, не можаце адказаць, калі стукаюць у дзверы?*




### УКРАЛІ СТАТУЮ

Італьянскія грабежнікі, якія спецыялізуюцца на творах мастацтва, перайшлі ад крадзяжу карцін, старых кандэлябраў і іншай „дробязі" да больш „цяжкаваговых" аперацый. У Палерма яны ўкралі зробленую ў XVII стагоддзі мармуровую статую са скульптурнай групы на плошчы Карафо.

### У СЯРЭДНІМ ПЯЦЬ ЗЛАЧЫНСТВАЎ НА АДЗІН ФІЛЬМ

Архіепіскап французскага горада Шамбери мансеньёр Базелар вырашыў высветліць маральны ўзровень кінафільмаў, якія дэманструюцца ў Францыі. Прагледзеўшы 400 кінафільмаў, ён налічыў у іх каля двух тысяч розных злачынстваў: 310 забойстваў, 74 выпадкі шантажу, 43 наўмысныя падпалы, 182 клятвазлачынствы, 505 разводаў з трагічным фіналам і мноства іншых парушэнняў закона...

### ДАРОЖНАЯ СТАТЫСТЫКА

Апытанне французскай службы бяспекі паказала: найгоршыя вадзіцелі аўтамабіляў — маладыя людзі ад 18 да 24 гадоў. Яны падвяргаюць сябе рызыцы трапіць у аварыю амаль у два разы часцей, чым усе іншыя аўтамабілісты. Лепшымі зарэкамендавалі сябе вадзіцелі ва ўзросце ад 35 да 44 гадоў. Іх рызыка стаць удзельнікамі дарожнага здарэння на 25 працэнтаў ніжэйшая за сярэднюю. Жанчыны, незалежна ад узросту, водзяць машыну горш за мужчын: доля іх рызыкі на аўтастрадах на 25 працэнтаў перавышае сярэдні ўзровень.




*Прырода нікога не крыўдзіць: чалавека з кароткім розумам узнагароджвае доўгім языком.*